Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 460.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-85-49

# НАВІНЫ



Аўторак, 5 траўня 1998 г. № 45 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Чакаюць Беразоўскага

**У мінскай штаб-кватэры СНД чакаюць прыезду Барыса Беразоўскага — новага выканаўчага сакратара.**

Плануецца, што ён прыбудзе ў Мінск 8 траўня. Да гэтага часу кабінет Беразоўскага займае Іван Каратчэня, які рыхтуецца здаць справы новаму начальству. Учора ён праводзіў аператыўную нараду ў штабе. У размове з карэспандэнтам НАВІНАЎ Іван Каратчэня паведаміў, што ягоны далейшы лёс пакуль не вызначаны. Паводле нашых звестак, адстаўны сакратар збіраецца перайсці на дыпламатычную службу.

Прэзідэнт Лукашэнка паабяцаў стварыць Барысу Беразоўскаму ўсе ўмовы для працы. Праўда, Рыгоравіч не верыць, што новаму сакратару ўдасца вывесці СНД з крызісу. Менавіта гэтая складаная задача будзе вырашацца на спецфоруме па ўдасканаленні дзейнасці СНД, які адбудзецца ў ліпені ў Маскве.

У офісе СНД пакуль не ведаюць, ці атрымае Беразоўскі, акрамя службовага кабінета, яшчэ і кватэру ў Мінску альбо будзе штодня прылятаць на працу прама з Масквы.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Палітычную «крамолу» канфіскавалі

**На беларуска-ўкраінскай мяжы ў лідэраў БНФ сканфіскавалі партыю друкаванай прадукцыі.**

Гэта адбылося 2 траўня на пагранпераходзе ў Столінскім раёне Брэсцкай вобласці. Кіраўнік Беларускага Народнага Фронту Лявон Баршчэўскі і ягоны намеснік Сяргей Папкоў вярталіся з Украіны. Работнікі мытні канфіскавалі ў іх 900 экзэмпляраў газеты «Беларускія ведамасці», якая выдаецца ў Варшаве, некалькі соцень экземпляраў артыкула «Расія ў блізкім замежжы» і інш. Падставай для падобных дзеянняў сталі леташнія пастанова ўрада і загад па Мытным камітэце аб увядзенні абмежаванняў на ўвоз друкаванай прадукцыі праз мяжу Рэспублікі Беларусь.

Лідэраў БНФ пратрымалі на мытным пункце 5 гадзінаў — увесь гэты час пагранічнікі і мытнікі вялі тэлефонныя кансультацыі са сваім кіраўніцтвам наконт далейшых дзеянняў. У выніку затрыманыя былі адпушчаныя, а друкаваныя выданні пакінутыя для вывучэння. *«Надзея, што ўдасца вярнуць гэтую партыю друкаванай прадукцыі, вельмі невялікая, — сказаў Сяргей Папкоў. — Рэжым за апошні год стварыў сапраўдную сістэму аховы самога сябе ад любой крытыкі».*

*БелаПАН*

## 200 баксаў у адны рукі

**Нацыянальны банк пастанавіў, што аднаму чалавеку ў адным абменным пункце цяпер не могуць прадаць больш за 200 долараў.**

Па інфармацыі з галоўнага банка краіны, такое рашэнне было прынятае па прапанове Камітэта дзяржаўнага кантролю «ў сувязі з напружанасцю на рынку наяўнай валюты».

*БелаПАН*



## Першамайскіх арыштантаў праз тры дні выпусцілі

**У панядзелак у Мінску судзілі групу беларускіх сацыял-дэмакратаў «за арганізацыю несанкцыянаванага шэсця».**

Мінскія ўлады дазволілі сацыял-дэмакратам правесці першамайскі мітынг каля Опернага тэатра, аднак грамадоўцы вырашылі пайсці разам з іншымі калонамі на плошчу Незалежнасці. Міліцыя спачатку спрабавала не выпусціць іх на праспект, але безвынікова. Начальнік сталічнай міліцыі генерал Барыс Тарлецкі, які назіраў за пачаткам «несанкцыяванага шэсця», вырашыў не прыцягваць залішняй увагі да апазіцыйнай калоны і даў каманду прапусціць сацыял-дэмакратаў. Грамадоўцы без перашкодаў ішлі па праспекце, час ад часу скандзіруючы лозунгі «Свабоду палітвязням», «Жыве Беларусь», а таксама заклікі кшталту «Куля, затвор, аўтамат, прэзідэнт». Апазіцыйная група дэманстрантаў рэзка вылучалася сваёй актыўнасцю на фоне пасіўных прадстаўнікоў працоўных калектываў, якіх збіралі на мітынг па разнарадцы. Сагнаныя пад прымусам людзі неслі партрэты прэзідэнта і транспаранты «Мир, труд, май». Найбольш арыгінальным было аздабленне калоны Мінскага завода безалкагольных напояў, рабочыя якога размахвалі рознакаляровымі сцяжкамі з надпісам «Мінская мінеральная № 4». На жаль, не ўдалося пабачыць, якія сцяжкі неслі ў святочнай калоне работнікі гарэлачнага завода «Крышталь».

*(Працяг на стар.2)*

*На здымках: Афіцыйны Першамай на плошчы Незалежнасці ў Мінску. У кожнага пакалення свае куміры. Пенсіянеры адзначалі дзень працы з партрэтамі камуністычных правадыроў Леніна, Сталіна, а маладзейшым даручылі трымаць партрэты Лукашэнкі.*



## Як лавілі журналістаў

**Журналісцкая работа на мінскіх вуліцах становіцца заняткам усё больш небяспечным.**

У мінулую пятніцу фотакарэспандэнты Сяргей Грыц (*Associated Press*) і Васіль Фядосенка (*Reuter*), якія па заданні сваіх рэдакцыяў здымалі першамайскія падзеі ў Мінску, былі схопленыя баевікамі спецпадраздзялення. Прычына ў тым, што журналісты фатаграфавалі, як гэтыя людзі ў цывільным кінуліся пасля дэманстрацыі затрымліваць удзельнікаў «несанкцыяванага шэсця».

Не паспеў Васіль Фядосенка зрабіць некалькі кадраў, як яго самога зацягнулі ў міліцэйскую машыну. Сяргея Грыца міліцэйскі «хвост» суправаджаў да прывакзальнай плошчы, і, як толькі журналіст сеў у таксоўку, да машыны адразу кінуліся двое ў цывільным, а дарогу таксі перагарадзілі «Жыгулямі». Грыца перасадзілі ў машыну з зацемненымі шыбамі і адвезлі ў Маскоўскі РАУС, дзе ўжо знаходзіўся Фядосенка, а таксама дзесятак схопленых удзельнікаў шэсця.

Журналістаў знялі ў анфас і профіль, пасля чаго ім загадалі чакаць прыходу нейкага міліцэйскага начальства. На ўсе патрабаванні карэспандэнтаў патлумачыць ім прычыну затрымання, міліцыянты заяўлялі, што ўсе пытанні трэба задаваць іхняму начальніку. Урэшце праз дзве гадзіны ў пастарунку з'явіўся нейкі маёр, які прадставіўся Анатолем Іванавічам, намеснікам начальніка Маскоўскага РАУС. Ён аб'явіў журналістам, што яны свабодныя, аднак патлумачыць прычыну захопу і прынесці ім прабачэнні катэгарычна адмовіўся.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

### Апытанне

44% жыхароў Беларусі, апытаных сацыёлагамі, прызналіся, што ім «ледзь удаецца зводзіць канцы з канцамі». 5% рэспандэнтаў паведамілі, што «залезлі ў даўгі», а 7% «вымушаныя выкарыстоўваць свае зберажэнні».



# Беларускія дэмакраты зноў спрабуюць аб'яднацца

**Група вядомых беларускіх апазіцыянераў прыняла заяву аб намеры стварыць Садружнасць дэмакратычных сілаў (СДС).**

Мэта Садружнасці — аднаўленне законнасці, дэмакратыі ў Беларусі, абарона незалежнасці краіны. Да канвенцыі, у якой выкладзеныя асноўныя прынцыпы СДС, ужо далучыліся такія вядомыя ў краіне палітыкі, як Генадзь Карпенка, Станіслаў Багданкевіч, Юрый Хадыка, Сямён Шарэцкі, Станіслаў Шушкевіч, Васіль Шлындзікаў і іншыя. Цяпер слова за партыямі, якія яны прадстаўляюць. Канвенцыя аб стварэнні СДС накіраваная ў партыі, незалежныя прафсаюзы і недзяржаўныя арганізацыі. Далучыцца да яе прапануецца ўсім, хто падзяляе дэмакратычныя каштоўнасці і гатовы іх абараняць.

Кіраваць новым аб'яднаннем будзе аналітычна-кансультатыўны Савет у складзе 14 чалавек — прадстаўнікоў палітычных і грамадскіх арганізацыяў. Пакуль каардынацыйй працу стварэння СДС будзе займацца Беларускі Хельсінкскі камітэт.

Нагадаем, што з часоў абвяшчэння незалежнасці Беларусі дэмакраты нашай краіны аб'ядноўваюцца не ўпершыню. Звычайна гэта рабілася ў часы палітычных крызісаў, аднак аб'яднанне дэмакратаў яшчэ ніколі не давала таго выніку, на які было разлічана. Напрыклад, стварэнне ў 1996 г. «круглага стала» партыяў і рухаў (аб'яднанне ішло вакол Вярхоўнага Савета 13-га склікання) ставіла сваёй мэтай згуртаваць палітычныя сілы перад пагрозай вераломнай змены Канстытуцыі прэзідэнтам Лукашэнкам. Аб'яднацца часова ўдалося, але спыніць дыктатара — не. У выніку «круглы стол» паціху сканаў, а ягоных былых удзельнікаў сёння нішто не аб'ядноўвае, акрамя слова «апазіцыйны» ды незайздроснага матэрыяльнага становішча. Ці не чакае той жа лёс СДС, які зараз ствараецца вакол Беларускага Хельсінкскага камітэта?

На думку старшыні Беларускага Хельсінкскага камітэта Тацццяны Процька, новае аб'яднанне можа стаць досыць уплывовым. Плануецца, што пры СДС будзе створаны аналітычны цэнтр, які зоймецца прапрацоўкай сцэнараў будучых падзеяў. Менавіта адсутнасць такіх прагнозаў прыводзіла раней да паразаў дэмакратаў. Што тычыцца практычных дзеянняў, то старшыня БХК прапануе ўжо сёння неадкладна заняцца падрыхтоўкай да прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбараў. Процька лічыць, што трэба стварыць эфектыўную сістэму кантролю за выбарамі і дамаўляцца пра вылучэнне адзінага кандыдата ад дэмакратаў на будучыя прэзідэнцкія выбары. *«Мы проста не маем права дапусціць паўтору сітуацыі 1994 г., калі адсутнасць згоды паміж дэмакратамі прывяла да перамогі антыдэмакратычных сілаў»,* — заяўляе Тацццяна Процька.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Першамайскіх арыштантаў праз тры дні выпусцілі

(Пачатак на стар.1)

У афіцыйным мітынгу на плошчы Незалежнасці, дзе было сабрана прыкладна сем тысячаў чалавек, апазіцыянеры не ўдзельнічалі. Пакуль штатныя аратары выказвалі з трыбуны словы ўдзячнасці таварышу Лукашэнку, сацыял-дэмакраты прайшліся вакол плошчы і пачалі разыходзіцца.

Традыцыйнае паляванне міліцыі на дэманстрантаў пачалося пазней. Непадалёк ад чыгуначнага вакзала група людзей у цывільным схапіла членаў ЦК сацыял-дэмакратычнай партыі Алеся Станкевіча і Андрэя Завадскага, а таксама лідэраў Маладой Грамады Сяргея Марцалева і Мікіту Коласа. У другой палове дня міліцыянты арыштавалі ў штабкватэры БСДП яе лідэра Міколу Статкевіча, які, зрэшты, і не збіраўся хавацца. Усяго было схоплена 11 чалавек. Тры выхадныя дні іх трымалі ў камерах Мінскага спецпрыёмніка, а ў панядзелак з раніцы пачалі дастаўляць у суды.

Мікола Статкевіч у зале суда быў выпушчаны на свабоду, паколькі разгляд яго справы быў перанесены на 12 траўня. Трое дэманстрантаў атрымалі па 3 сутак арышту, адзін чалавек папярэджаны і адзін апраўданы. Справы астатніх будуць разглядацца 13 траўня.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**



*Як і ў былыя савецкія часы людзі ішлі на дэманстрацыю па разнарадцы (здымак уверсе).*

*Падчас першамайскай дэманстрацыі з адным міліцыянтам здарыўся эпілептычны прыпадак (на здымку ўнізе).*



## Першага сакратара абкама «не зацвердзілі»

**На сесіі Гродзенскага гарадскога савета дэпутатам прапанавалі перайменаваць праспект 40-годдзя Перамогі ў праспект Леаніда Кляцкова, былога першага сакратара абкама КПБ. Але прапанова набрала менш за палову ад патрэбнай колькасці галасоў.**

Трэба сказаць, што пасля таго, як Беларусь стала прэзідэнцкай рэспублікай, вуліцы ў Гродне перасталі перайменоўваць. У дэмакратычныя часы паспелі замяніць каля 20 савецкіх назваў. Што датычыць «40-годдзя Перамогі», дык нават тады ўлады не наважыліся скасаваць гэтую назву, зважаючы на ветэранаў. У горадзе, між іншым, і без таго існуе проста вуліца Перамогі даўжынёй 2,5 км і аднайменны завулак. Гэта, аднак, не перашкодзіла Савету ветэранаў патрабаваць, каб у Гродне з'явілася яшчэ і плошча імя 50-годдзя Перамогі. Але здзейсніць гэтую «юбілейную» задуму не ўдалося.

Што датычыць першых сакратароў, дык у горадзе ёсць толькі вуліца С.Кабяка, першага сакратара Віцебскага абкама КПБ, які некалі працаваў у Гродне старшынём аблвыканкама. А вось Леанід Кляцкоў, якога не захацелі зацвердзіць гродзенскія дэпутаты, кіраваў абкамам цэлых 18 гадоў. У 1990 годзе, выйшаўшы на пенсію, ён здаў свой шыкоўны цагляны асабняк у цэнтры горада і пераехаў у Мінск. Памёр Л.Кляцкоў у 1997 г., пахаваны на сталічных Маскоўскіх могілках.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Беларускую зямлю павезлі ў Лондан

**У Англію паехала гільза з зямлёй са славутага Буйніцкага поля, на якім 23 дні доўжылася абарона Магілёва ад наступу фашыстаў.**

У Лондане 8 траўня будзе адчынены помнік воінам, якія загінулі ў барацьбе з фашызмам на франтах 2-й сусветнай вайны. Помнік ствараецца пад патранажам брытанскай каралевы. Зямлю плануюць прывезці з усіх абласцей Беларусі, якая пацярпела ў гады апошняй вайны больш за ўсе краіны Еўропы.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Інтэгратары з'ехаліся ў Гомель

**У Гомелі распачала работу 8-я міжпарламенцкая сесія Саюза Расіі і Беларусі.**

Гарадскія ўлады шмат дзён рыхтаваліся да сустрэчы расійскай думскай дэлегацыі, у якую ўваходзяць Г.Селязнёў, А.Лук'янаў, С.Бабурын. У Гомелі быў тэрмінова ўпарадкаваны аэрапорт (ёсць звесткі, што на гэта пайшло больш за 100 млрд. рублёў), вакзал, усе пад'езды да горада. Асаблівую ўвагу надалі рэзідэнцыі інтэгратараў — гасцініцы «Турыст».

Пачатак сесіі прынёс гомельцам палёгку. Цэлы месяц кіроўцы былі вымушаныя аб'язджаць па ходніках асфальтаўкладачныя машыны. Пешаходы ж, наадварот, мусілі хадзіць па праезнай частцы, бо фасады многіх дамоў у цэнтры горада спешна рамантавалі. Зноў селі за парты студэнты і школьнікі, якія ўжо былі забыліся на заняткі, бо не паспявалі патрапіць з ленінскага суботніка на экалагічны, як іх змянялі суботнікі без назвы.



*На здымку: гомельскую гасцініцу «Турыст» ударнымі тэмпамі рыхтавалі для прыёму гасцей-інтэгратараў.*

Наведзены парадак і на аб'ектах, якія мусяць наведаць замежныя госці: падчысцілі «Гомельшкло», «Гомсельмаш», дзяржуніверсітэт імя Ф.Скарыны. Запомніцца сесія гараджанам і тым, што пасля доўгай адсутнасці ў гарадскія крамы вярнуліся яйкі, масла, каўбасы і малако. Вось толькі ці надоўга?

Новы мэр Гомеля А.Якабсон лічыць сваёй задачай *«зрабіць усё, каб сесія для парламентарыяў стала незабыўнай»*. Да таго ж, ён упэўнены, што гэтая падзея дапаможа гораду зрабіць яшчэ адзін крок да атрымання статусу цэнтра міжрэгіянальных сувязяў Расіі, Беларусі і Украіны. А пакуль на падрыхтоўку да сесіі патрацілі 160 млрд. рублёў з рэспубліканскага бюджэту і 150 млрд. — з гарадскога.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Арыгінальнае пакаранне

## *Расійскія антыфашысты адчулі смак законнасці па-беларуску*

У мінулым нумары мы паведамлялі, як пасля Чарнобыльскага шляху 15 сябраў расійскай арганізацыі Антыфашысцкае маладзёжнае дзеянне былі затрыманыя і пасля пакарання — хто штрафамі, хто папярэджаннямі. Але пакаранні гэтыя былі вынесеныя вельмі дзіўным чынам.

Адбывалася гэта так. Антыфашыстаў па адным выклікалі ў кабінет, дзе нехта ў цывільным абвяшчаў кожнаму рашэнне: за «абразу гонару і годнасці асобы» — папярэджанне альбо штраф. Прычым расіяне доўга не ведалі, быў то міліцыянт, кадэбэшнік ці суддзя — ні прозвішча, ні пасады гэты «нехта» нікому не назваў. Рашэнні ён выносіў у вуснай форме; копіяў рашэння амаль нікому не выдалі. Выключэннем стаў усяго адзін чалавек — Барыс Сямёнаў — яму выдалі паперу толькі пасля настойлівых патрабаванняў. І толькі таму мы ведаем, хто менавіта выносіў рашэнні: гэта начальнік Савецкага райаддзела міліцыі С.Дубаневіч.

Пасля вынясення рашэнняў расійскіх антыфашыстаў завялі ў аўтобус і ў суправаджэнні амонаўцаў павезлі на вакзал. На іх пытанне, хто прымаў рашэнне аб дэпартацыі, намеснік начальніка Мінскай гарадской міліцыі Павел Нямковіч адказаў: «А мы вас не дэпартуем — мы проста дапамагаем вам з'ехаць».

Навязлівы сэрвіс працягваўся ажно да Смаленска: увесь гэты шлях амонаўцы (відаць, у якасці ганаровай варты) знаходзіліся ў вагоне. Каб з шаноўнымі гасцямі нічога не здарылася, іх не выпускалі з купэ (нават у прыбіральню праводзілі неахвотна). Праўда, гэткі пяшчотны клопат няўдзячныя антыфашысты не ацанілі.

**Зміцер ЛІХТАРОВІЧ**

## Шарамета і Завадскага ўзялі на мушку

**Супрацоўнікі тэлекампаніі ОРТ Павел Шарамет і Дзмітрый Завадскі пастаўленыя на ўлік у райаддзелах міліцыі па месцы жыхарства — як умоўна асуджаныя.**

Нагадаем, што суд у Ашмянах вынес пакаранне: П.Шарамету — два гады, Д.Завадскаму — 1 год і 6 месяцаў, абодвум з выпрабавальным тэрмінам 1 год. 30 красавіка ў Шарамета і Завадскага міліцыя двойчы зняла адбіткі пальцаў, іх сфатаграфавалі і знялі на відэаплёнку. Журналістам паведамілі і ўмовы «выпрабавальнага рэжыму»: у прыватнасці, яны не маюць права без дазволу пакідаць месца жыхарства, выязджаць за мяжу, звальняцца і пераходзіць на іншае месца працы і г.д.

Гродзенская абласная пракуратура і абласны суд, куды Шарамет і Завадскі падавалі касацыйную скаргу, прыслалі пісьмовыя адказы, у якіх гаворыцца, што падставаў для перагляду прысуду няма. Зараз журналісты маюць намер падаць скаргу генеральнаму пракурору і старшыні Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь, а таксама звярнуцца ў міжнародны суд.

*БелаПАН*

## «Дар» дапаможа знайсці бацькоў

**Трыццаці гомельскім дзецям-сіротам пашанцавала ўдзельнічаць у рэалізацыі праекта «Дар», распрацаванага сумесна з італьянскім фондам «Анпас».**

Праект прадугледжвае ўсынаўленне сіротаў гомельскімі сем'ямі, а італьянцы бяруць на сябе абавязак аказваць такім сем'ям усебаковую дапамогу. Дарэчы, у Італіі зусім няма інтэрнатаў, як у нас: усіх сіротаў усынаўляюць сем'і, прычым многім даводзіцца доўга чакаць сваёй чаргі.

**Ядзвіга КОПАЦЬ**

## Льготы для «патрыётаў»

Гомельскія ўладальнікі членскіх білетаў БПСМ маюць права на 30-працэнтную скідку пры набыцці білетаў у самы «круты» гарадскі дыскаклуб «Лайт», пры аплаце паслугаў у кафэ «Дружба», пры набыцці вопраткі на фабрыцы «Элегант», а таксама пры наведванні цырульняў, студыяў гуказапісу, відэасалонаў і фізкультурна-аздараўленчых комплексаў горада. Каб маладым «патрыётам» было зручней арыентавацца ў шырокім спектры льготаў, плануецца выпуск спецыяльнага рэкламнага даведніка, які будзе ўручацца кожнаму новаспечанаму сябру БПСМ.

Прывабнымі льготамі не супраць пакарыстацца многія маладыя людзі. Некаторыя прадстаўнікі апазіцыйных маладзёжных рухаў, уступаючы ў БПСМ, тлумачаць сябрам, што збіраюцца спалучыць прыемнае з карысным: і льготамі пакарыстацца, і БПСМ знутры развальіць.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**




## З Гомеля – ў Нароўлю

**Учора ў Гомельскую вобласць з аднадзённым візітам прыбыў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка.**

Раніцай ён наведаў Гомельскі аблвыканкам, дзе адбылася ўрачыстая цырымонія ўручэння ўзнагародаў 27 грамадзянам вобласці ў сувязі з 60-годдзем Гомельшчыны, якое адзначалася нядаўна. Далей запланавана выступленне Лукашэнкі на 8-й сесіі Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі.

Пасля гэтага прэзідэнт мае намер наведаць Нараўлянскі раён — адзін з шасці раёнаў вобласці, найбольш пацярпелых ад чарнобыльскай аварыі.

У Нараўлянскім раёне грунтоўна рыхтаваліся да прыезду Рыгоравіча. У вёсках, якія стаяць пры дарозе, паставілі новыя платы за дзяржаўны кошт. У райцэнтры ўсё пачысцілі ды пафарбавалі фасады.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ**

*На здымку: Нараўлянскую сярэднюю школу рыхтуюць да прыезду прэзідэнта.*

# Клуб бывших братьев

**Сегодня, после очередной встречи глав государств СНГ, перед ним открывается как никогда пессимистическая перспектива. По общему мнению, СНГ за шесть лет не смогло оправдать свое существование.**

## Повод выпить шампанского

У стран СНГ нет и тени согласованных действий на международной арене, продолжается распад экономических связей между его членами. Товарооборот внутри содружества каждый год уменьшается на 10%. Подписанный в 1993 году договор о создании Экономического союза, что предполагало поэтапное продвижение государств-участников от одной стадии интеграции к другой (Зона свободной торговли — Таможенный союз — Платежный и Валютный союзы — Общий рынок товаров, услуг и капиталов), похоронен окончательно. Аналитики называют симптоматичным тот факт, что даже пламенный борец за интеграцию Александр Лукашенко высказывается о будущем содружества весьма холодно. А президент Казахстана Н.Назарбаев после встречи в Москве высказался достаточно однозначно: *«Заседание прошло еще хуже, чем в Кишиневе. Опять поговорили о том о сем, выпили шампанского — и разъехались. Я уже мало верю в возможности СНГ».*

Сама система СНГ не учитывает ни традиций бывших союзных республик, ни нынешних реалий. Россия желает лидировать в СНГ, хотя бы в память о лучших имперских временах, и это несомненно: Москва шла даже на явные авантюры, чтобы втянуть в содружество тех, кто не желал это сделать добровольно (пример тому — Грузия). Но, с другой стороны, Шеварднадзе в свое время высказывал готовность стать объединенным министром иностранных дел СНГ — Кремль демонстративно этого не заметил: как же — какой-то там нерусский и вдруг...

Между тем СНГ было и остается аморфным соединением. Органы содружества представляют собой довольно громоздкую бюрократическую машину (аппарат исполнительных органов СНГ насчитывает 2.500 чиновников), но работает эта машина вхолостую. В отличие от советских времен сегодня «столица СНГ в Минске» не принимает никаких решений. А решать вопросы взаимоотношений на саммитах невозможно даже с технической точки зрения. Встречи оборачиваются банальной говорильней. В коридорах власти нередко можно услышать: *«Обсуждаемые на саммите вопросы тянут только на уровень министра, если не замминистра. Встречаться на уровне президентов необходимо только для визирования полностью согласованных стратегических решений».*

Вряд ли что-нибудь изменится после назначения на пост исполнительного секретаря СНГ Бориса Березовского. С одной стороны, Ельцин сдержал свое слово и «выслал Березовского из России» — в штаб-квартиру содружества в Минске. С другой, комментаторы единодушны во мнении: Березовскому совершенно не нужна карьера технического работника межгосударственных структур. Раз он согласился на эту должность — то преследует свои интересы в крупном бизнесе. Ведь на Украине еще впереди большая приватизация, в Беларуси — золотое дно транзита, в Закавказье и Средней Азии много нефти... Иными словами, скорее СНГ будет полезно Березовскому, но не наоборот.

## «Заявленная идея»

Занимаясь решением собственных многочисленных проблем, государства-участники в начале 90-х годов не могли уделять серьезное внимание строительству СНГ. Всем по привычке казалось, что «братские связи» никуда не денутся, они нерушимы даже при наличии национальных суверенитетов. Ан нет: получилось, что *«содружество — это просто заявленная идея, но не реально существующий организм»,* — сказал недавно зампредседателя комитета по делам СНГ российской Госдумы Вячеслав Игрунов.

Механизм контактов внутри СНГ скопировали с советской модели, но не учли, что суть



*После заседания снова избранный председателем Совета глав государств СНГ до 2000 года Борис Ельцин (крайний справа) широким жестом пригласил своих коллег-президентов к столу. Испить шампанского.*

отношений изменилась. Ширится мнение, что вместо проведения помпезных, но бесполезных саммитов странам СНГ лучше строить отношения друг с другом на основании двусторонних контактов. Уже сформировались или находятся в процессе формирования блоки интересов, которые еще раз доказывают плодотворность «выборочных» связей. Это теперь понятно и руководству России. При всех противоречиях союз России и Белоруссии выглядит более продуктивным, чем абстрактная дружба в СНГ. То же относится к связям между другими странами. А вот четверка Беларусь—Казахстан—Киргизия—Россия, к которой на днях пристегнули постоенный (или скорее, учитывая возобновившиеся вооруженные стычки, межвоенный) Таджикистан, — гораздо менее эффективна, поскольку объединяет не группу, а набор стран, у которых весьма мало общего.

И уж совсем неэффективно СНГ как таковое.

## Дружеский шантаж

На московском саммите прозвучала мысль, что яблоком раздора в СНГ является Россия. Действительно, участники СНГ постоянно шантажируют друг друга и прежде всего Россию. Суть обвинений состоит в том, что сегодняшняя Москва не может заменить бывшую столицу СССР, хотя с завидным упрямством претендует на эту роль. В итоге то, что страны содружества хотят получить от России, они, как правило, получают.

Правда, поставляя сырье и поглощая готовую продукцию (такая схема работает, к примеру, с Беларусью) или же, наоборот, покупая сырье (сотрудничество с Казахстаном), Россия не может обеспечить странам СНГ финансовые ресурсы в виде инвестиций. Понимая, что Россию игнорировать нельзя, члены СНГ согласны пойти на некоторые уступки, но «бывшим братьям» не чуждо совершенно естественное стремление повыгоднее продать что-нибудь и на сторону. Запад вынужден учитывать российский фактор, а поэтому вкладывает средства в экономику стран СНГ с некоторой осторожностью. Надолго ли такой осмотрительности хватит? Вряд ли.

Здравый смысл и законы рыночной конкуренции подсказывают иностранцам, что поддерживать соперника Москвы выгодно. Поэтому участники СНГ (за исключением разве что Беларуси) работают на два фронта. Отсюда и заявления грузинских парламентариев о намерении выйти из СНГ, и широкие восточно-западные реверансы Украины, которая год назад с чувством собственного достоинства проводила учения *Sea Breeze-97* вместе с военным флотом США, а в апреле этого года гордилась успехом российско-украинских учений на том же Черном море.

Косвенно и сами участники содружества признают, что от России отказываться не стоит. Но тем не менее предпринимаются шаги к созданию самостоятельных экономических структур. В частности, Азербайджан, Афганистан, Иран, Казахстан, Киргизия, Пакистан, Таджикистан, Туркменистан, Турция и Узбекистан приступили к разработке технико-экономического обоснования для строительства единой энергосистемы этих стран. Таким образом, рушится один из столпов российского влияния в СНГ — единая энергетическая система.

Все чаще в качестве реального партнера стран СНГ вместо России выступают третьи страны — США, Турция, Китай и т.д. Логично, что такие связи получают приоритет в силу их определенности, а также политической и экономической эффективности. Внешние партнеры хотят закрепиться на завоеванных экономических плацдармах, и они стараются усилить противоречия между Россией и другими странами СНГ. Доля третьих стран в товарообороте членов СНГ возрастает, а внутренний рынок сокращается.

## Что дальше?

Выйти из тупика, очевидно, можно было бы при помощи двусторонних прямых контактов. Осознанием этого факта следует считать активность российского вице-премьера Ивана Рыбкина, который перед последним саммитом объехал почти всех руководителей стран содружества. Что ж, Россия обречена оставаться политическим и экономическим центром содружества — в силу своих размеров и достаточно давних традиций. В определенном смысле содружество — зеркало России, и многое зависит от нее самой. Но Россия никак не сумеет навести порядок в пределах своих границ, куда уж там СНГ.

К тому же между членами содружества накапливаются, нарастают объективные противоречия, они все более удаляются друг от друга. В Казахстане, например, уже более 70% экономики представлены частным сектором, и Н.Назарбаев закономерно призывает к использованию опыта Европейского Союза. Но при этом сам же признает: *«Не все страны СНГ еще готовы к такой форме интеграции. Нужно начать движение тем, кто готов».*

Но если ничего не изменится во внутренней политике отдельных государств, то к тому времени, когда «будут готовы» Беларусь или Туркменистан, об СНГ уже успеют забыть.

**Петр КИРЬЯН,**
*«Эксперт»*

## Назарбаев подумал о внуках

Президент Казахстана Нурсултан Назарбаев объявил о приостановлении приватизации в нефтегазовой отрасли страны. На сегодняшний день там приватизировано около 50%, и вот, по словам президента, пришло время «подумать о будущих поколениях». Возможно, есть и другие причины, — например, падение мировых цен на нефть. Казахстан приостановил приватизацию, так как ему пришлось бы продать концессии на разработку месторождений по заведомо заниженным ценам.

## Латвии – нет! Шпротам – да!

75% россиян поддерживают идею силового давления на Латвию под предлогом защиты русскоязычного населения. Однако, как свидетельствуют результаты общероссийского социологического опроса, большинство опрошенных купят товары *made in Latvia*, если они им будут нужны. Более 60% опрошенных горожан ни при каких условиях не откажут себе в латвийских шпротах.

## Учи язык, учись на языке

Парламент Латвии во втором чтении принял Закон о государственном языке. Решено, что высшее образование в стране можно будет получить только на латышском языке. В общеобразовательных школах, финансируемых из госбюджета или средств самоуправлений, не менее половины предметов должно вестись на госязыке. В учебных заведениях, финансируемых иностранцами, иной язык обучения должен быть специально оговорен.

## Эстония разграничится с Россией

В ближайшее время должен быть подписан договор о границе между Россией и Эстонией. Переговоры о межгосударственной границе ведутся Россией и Эстонией с апреля 1992 года. Как заявил президент Эстонии Леннарт Мери, Таллинн настаивал на возвращении к границам, установленным Тартуским мирным договором 1920 года, и, таким образом, претендовал на часть российской территории в 2,3 тысячи кв. километров. Российская же сторона определяет государственную границу по бывшей административно-территориальной линии между РСФСР и ЭССР. Скорее всего, будет выбран компромиссный вариант.

# Рост аплачаны Расіяй

## *Дарадца беларускага ўрада аналізуе развіццё эканомікі*

Замежны дарадца з'явіўся ў Аляксандра Лукашэнкі на пачатку 1998 года. Зарплату яму плаціць Сусветны банк. Вядомы італьянскі эканаміст Дамініка Марыо Нуці ў свой час быў кансультантам урада Польшчы, цяпер ён працуе ў Мінску.

Еўрапейскі спецыяліст падрыхтаваў спецыяльны даклад «Беларусь: устойлівасць росту і пытанні эканамічнай палітыкі». На думку Д.Нуці, эканамічны рост быў дасягнуты ў першую чаргу за кошт павялічэння попыту на беларускую прадукцыю ў Расіі. Экспарт у Расію павялічыўся на 40%, і дэфіцыт гандлю паміж Расіяй і Беларуссю скараціўся з 493 да 5 млн. долараў ЗША. Але, з другога боку, звяртае ўвагу эксперт, гэта было дасягнута за кошт росту дэфіцыту ў гандлі з іншымі рэспублікамі былога СССР, а таксама з краінамі далёкага замежжа. У выніку, нягледзячы на скрачэнне гандлёвага дэфіцыту ў дачыненнях з Расіяй, агульны знешні гандаль Беларусі не мае такой станоўчай тэндэнцыі. Гэта сведчыць аб узрастанні залежнасці Беларусі ад Расіі, а «зацыкліванне» на канкрэтным рынку з'яўляецца вельмі рызыкоўным у доўгатэрміновай перспектыве.

Задаволіць попыт на беларускую прадукцыю ў Расіі дапамагло больш поўнае выкарыстанне старога абсталявання, у пэўнай ступені эфект далі невялікія інвестыцыі і рост прадукцыйнасці працы. Аднак адным з асноўных фактараў стала фінансаванне эканомікі за кошт друкарскага станка. Такі эканамічны рост з'яўляецца каротказтэрміновым і заўсёды суправаджаецца ростам дэфіцыту знешняга гандлю і інфляцыі — што і адбылося. Таму, на думку Д.Нуці, пры адсутнасці зменаў у эканамічнай палітыцы, рэальнае развіццё будзе залежаць ад двух знешніх фактараў — тэмпаў эканамічнага росту ў Расіі і нарошчвання імпарту тавараў з Беларусі ў Расію. Прычым гэтыя працэсы павінны быць дастаткова моцнымі.

Аднак, як лічыць эксперт, такі варыянт развіцця падзеяў вельмі малаверагодным. Эканамічны рост у Расіі вельмі няўстойлівы, да таго ж хутка развіваецца гандаль Расіі з іншымі краінамі СНД і далёкім замежжам, дзе могуць прапанаваць тавары больш высокай якасці і цалкам канкурэнтаздольныя па коштах. Да таго ж Расія стратэгічна не зацікаўленая ў развіцці гандлю з Беларуссю, якая набывае расійскую сыравіну і прадае назад прадукцыю ў той час, як расійскія аналагічныя заводы паціху гінуць.

Замежны дарадца робіць выснову: немагчыма захаваць эканамічны рост, калі не будзе зменаў у эканамічнай палітыцы дзяржавы. Гэтая палітыка павінна забяспечыць рэальную канкурэнтаздольнасць беларускіх тавараў і скласці ўмовы для павелічэння знешніх інвестыцыяў на пераўтварэнне беларускай эканомікі. А тут ужо няма іншага выйсця, акрамя правядзення сапраўдных рыначных рэформаў, рэзюмуе эксперт.

**Алесь САДОЎСКІ**

# Перамога профі





*З 1 па 3 траўня ў Мінскім Палацы тэнісу, што на праспекце Машэрава, праходзілі гульні чарговага этапа Кубка Дэвіса. Тэнісісты Беларусі літаральна разграмілі зборную Люксембурга — 5:0. На здымку злева — нашыя героі парных спаборніцтваў Максім Мірны і Аляксандр Швец. Люксембургскі тэнісіст Саша Тома (фота справа) яўна незадаволены сваёй гульнёй — але што ж зробіш; адно суцяшэнне — яго сфатаграфавалі на фоне літар Davis Cup.*

*У нядзелю, калі ўжо было ясна, што беларусы — пераможцы, на корты наведаліся балельшчыкі пры высокіх пасадах — шэф мінскай міліцыі генерал Барыс Тарлецкі і кіраўнік прэзідэнцкага сакратарыята Урал Латыпаў.*

*Спартовыя аглядальнікі прагназавалі трыумфальны для беларусаў вынік: рэч у тым, што ўся каманда Люксембурга — не прафесіяналы, а аматары. Наступны матч нашыя тэнісісты правядуць з камандай Марока ў ліпені. У Афрыцы давядзецца сапраўды папацець...*

# Даты і лёсы

## 5 траўня

**1818.** Нарадзіўся заснавальнік навуковага камунізму Карл Маркс. Ёсць показка: «Калі Маркс трапіў у пекла, яго вырашылі абраць сакратаром партарганізацыі, але ён даў самаадвод: нарадзіўся ў габрэйскай сям'і, меў жонку шляхецкага паходжання і, галоўнае, усё жыццё пражыў за мяжой».

**1943.** У вёсцы Новае Сяло непадалёк Барысава эсэсаўцы сагналі 120 чалавек у хату, стралялі ў вокны і дзверы, кідалі гранаты, а потым падпалілі хату. Гэта першы выпадак масавага знішчэння мірных людзей фашыстамі ў Беларусі.

**1952.** Песня *Deutschland Uber Alles* («Перадусім — Германія») была зацверджаная ў якасці дзяржаўнага гімна ФРГ. У гэты ж дзень у **1955** г. Заходняя Германія атрымала поўны суверэнітэт і неўзабаве далучылася да *NATO*.

**1961.** Праз тры тыдні пасля палёту Гагарына ЗША запусцілі ў космас свайго першага астранаўта Алана Шэпарда, а прэзідэнт Кенэдзі паабяцаў, што амерыканцы першымі высадзяцца на Месяц. У гэты ж дзень у 1963 г. свой першы спадарожнік вывела на арбіту Вялікабрытанія.

**1968.** У Парыжы пачаліся барыкадныя баі паміж студэнтамі і паліцыяй, падчас якіх каля тысячы чалавек былі параненыя. Рабочыя неўзабаве падтрымалі студэнтаў найбольш працяглай у гісторыі Францыі агульнанацыянальнай забастоўкай. Кіраўнік студэнцкага бунту Даніэль Кон-Бендзіт быў пазбаўлены грамадзянства і высланы з краіны. Цяпер ён — дэпутат Еўрапарламента ад партыі «зялёных» ФРГ.

## 6 траўня

**1626.** Галандскі пасяленец Пол Мінуіт купіў у індзейскага племені востраў Манхэтан — сённяшні цэнтр Нью-Ёрка — за жменю біжутэрыі коштам прыкладна ў 25 долараў.

**1992.** У Парыжы ва ўзросце 91 года памерла выбітная актрыса і спявачка немка Марлен Дзітрых, якая ўвасабляла ў сусветным кінематографе вобраз вытанчанай рамантычнай жанчыны. У апошнія гады Марлен шмат хварэла і прыйшла да высновы: «Баяцца трэба не смерці, а жыцця».

**1992.** Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь скасаваў Беларускую ваенную акругу. Усе войскі (за выключэннем тых, што ўваходзілі ў склад стратэгічных сілаў СНД) перайшлі ў падпарадкаванне Міністэрства абароны Беларусі.

## 7 траўня

**1823.** Людвіг ван Бетховен, ужо зусім глухі, выступіў у якасці дырыжора на прэм'еры сваёй славутай Дзевятай сімфоніі ў Вене. У гэты ж дзень у 1833 г. нарадзіўся выбітны нямецкі кампазітар Ёганес Брамс, а ў 1840 г. — Пётр Чайкоўскі.

**1888.** Джордж Істмэн запатэнтаваў фотакамеру *Kodak* — самую папулярную на сённяшні дзень.

**1942.** Нацысты расстралялі і павесілі ў Мінску 79 падпольшчыкаў.

**1960.** Леанід Брэжнеў упершыню быў абраны старшынём Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР.

**1966.** У Мінску адчыніўся Палац спорту.

**1980.** З нью-йоркскай турмы выйшаў на волю 85-гадовы Пол Гейдэл, які правёў у турме за забойства рэкордны тэрмін — 68 гадоў 8 месяцаў.

**1985.** ЦК КПСС прыняў пастанову аб барацьбе з п'янствам і алкагалізмам. Гарэлка падаражэла адразу ў некалькі разоў, а на поўдні СССР пачалі высякаць вінаграднікі.

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# Гомель – алімпійская сталіца маладых

**З 5 траўня па 7 чэрвеня ў Гомелі будуць спаборнічаць каля 4,5 тысячы маладых атлетаў па 25 відах спорту.**

Тут будзе праходзіць X рэспубліканская спартакіяда вучнёўскай моладзі. Апошні раз падобнае спартовае свята праводзілася 15 гадоў назад. І вось цяпер на працягу месяца маладыя беларускія спартсмены будуць спрачацца на стадыёнах і спартыўных пляцоўках Гомеля, а таксама Рэчыцы, Лельчыцаў, Калінкавічаў і Мазыра.

Што тычыцца фінансаў, то за харчаванне і размяшчэнне спартсменаў, а таксама суддзям заплаціць міністэрства спорту, усе астатнія выдаткі лягуць на мясцовыя ўлады. Па традыцыі, раскашэліцца давядзецца ў першую чаргу прадпрыемствам вобласці, якім даваўся ўзяць шэфства над кожнай з камандаў-удзельніцаў спартакіяды.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Студэнцкі юбілей

**Гэтымі днямі адзначае 50-годдзе міжнародная арганізацыя *AIESEC*, якая аб'ядноўвае студэнтаў, што вывучаюць эканоміку.**

Заснаваная ў 1948 годзе сямю еўрапейскімі краінамі, *AIESEC* паклала пачатак цеснаму супрацоўніцтву студэнтаў і прамысловых кампаніяў краінаў свету. Членамі арганізацыі былі прынц Уэльскі Чарльз, Джон Кенэдзі, Біл Клінтан і іншыя сусветна вядомыя асобы. Камітэт *AIESEC* Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта дзейнічае з 1992 года. За гэты час ён ажыццявіў мноства праектаў, дзесяткі беларускіх студэнтаў атрымалі магчымасць супрацоўніцтва са сваімі аднагодкамі з-за мяжы і такімі кампаніямі, як *Procter & Gamble*, *Microsoft*, *Coca-Cola* і інш.

*БелаПАН*

# Кінь курыць і выйграй!

**Пад гэтым дэвізам Сусветная арганізацыя аховы здароўя (СААЗ) праводзіць акцыю на ўсіх кантынентах планеты.**

У Беларусі рэгістрацыя ўдзельнікаў міжнароднай антытытунёвай кампаніі завяршылася 2 траўня, цяпер будзе сам конкурс. Па звестках СААЗ, ад хваробаў, выкліканых паленнем тытуню, кожныя дзесяць секундаў у свеце памірае чалавек. Шкодная прывычка курыць, якая прыводзіць да лёгачных, сардэчна-сасудзістых захворванняў, злаякасных новаўтварэнняў, штогод становіцца прычынай смерці больш як 15 тысячаў жыхароў Беларусі. Згодна са статыстыкай, у нашай краіне курыць больш за палову насельніцтва ва ўзросце 40-59 гадоў.

У антытытунёвай кампаніі меў магчымасць удзельнічаць кожны грамадзянін Беларусі старэйшы за 18 гадоў са «стажам» штодзённага курэння не менш як год. Сярод прэтэндэнтаў будзе разыграная латарэя з прызамі, галоўны з якіх, заснаваны Фінляндыяй, — 10 тысячаў долараў. Разлічваць на прызы могуць тыя, хто здолее поўнасцю адмовіцца ад курэння, па меншай меры, на працягу месяца з дня пачатку кампаніі — гэта значыць, з 2 траўня. Для пацвярджэння таго, што прэтэндэнт на прыз устрымліваўся ад курэння, яму давядзецца прайсці біялагічны тэст.

Падобная акцыя ўжо праводзілася ў 1996 годзе, і да 60% яе ўдзельнікаў змаглі абысціся без курэння на працягу месяца, а 32,7% — на працягу года.

*БелаПАН*

# Нясвіж разыдзецца па Еўропе

**Сёння, 5 траўня, адзначаецца Дзень Еўропы. Сёння ж у Беларусі ўводзіцца новая марка наміналам 15.000 рублёў і паштовая картка, прысвечаныя 775-годдзю Нясвіжа.**

Мастак Віктар Сташчанюк намаляваў на паштовых мініяцюрах цэнтральны ўваход у «беларускі Крэмль» — Нясвіжскі палаца-паркавы ансамбль XVI-XVII стагоддзяў. Упершыню на беларускай паштовай марцы прыменены лагатып *EUROPA* — сімвал Еўрапейскай паштовай арганізацыі. Новая марка аддрукаваная ў малых лістах па 10 марак у кожным, агульны наклад — 320.000 асобнікаў. На іх выяўленыя сілуэты архітэктурных помнікаў Нясвіжа.

На Нясвіжскім паштамце праводзіцца спецыяльнае гашэнне на канвертах першага дня з выявай помніка архітэктуры XVII стагоддзя — нясвіжскай Слуцкай брамы.

*БелаПАН*

# Кітай – зусім побач

**Група студэнтаў мінскіх ВНУ выступіла з ініцыятывай стварэння беларускай маладзёжнай асацыяцыі «Кітай-2000».**

Асацыяцыя ствараецца пры таварыстве дружбы «Беларусь—Кітай» і мяркуе развіваць адукацыйныя і дыскусійныя праграмы па гісторыі і культуры Кітая, па праблемах развіцця маладзёжнага прадпрымальніцтва ў Кітаі і Беларусі; арганізоўваць конкурсы даследчых прац пра КНР. У перспектыве плануецца правядзенне маладзёжнага форуму «Беларусь—Кітай-2000».

Пры асацыяцыі плануецца арганізаваць клуб кітайскіх студэнтаў, якія навучаюцца ў Беларусі, для аказання ім дапамогі, правядзення сумесных вечароў адпачынку, экскурсіяў, сустрэчаў. Для беларускай моладзі, якая вывучае кітайскую мову, плануецца правядзенне віктарынаў і забаўляльных праграм. Асацыяцыя мае намер устанавіць партнёрскія сувязі з кітайскімі равеснікамі.

Ініцыятыву беларускіх студэнтаў падтрымала амбасада Кітая ў Беларусі. Па словах Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла КНР спн. У Сяоцю, пасольства гатовае дапамагчы.

*БелаПАН*

# Крычаў застаўся без піва

**У райцэнтры Крычаў Магілёўскай вобласці зачынілі піўны завод.**

Завод праіснаваў больш за 40 гадоў. Апошнім часам прадукцыя прадпрыемства не адпавядала нават самым мяккім патрабаванням якасці. Каб мадэрнізаваць вытворчасць альбо яе перапрафіліраваць, патрабуецца 15 мільярдаў рублёў. Гэткіх грошай ні ў каго няма.

Завод ужо некалькі месяцаў фактычна прастойвае. Былому калектыву — гэта каля 100 чалавек — трэба шукаць працу. А піва ў 32-тысячны горад будуць прывозіць з Магілёва і Бабруйска.

**Іван ЗАСАДА**

# На бясплатным святле

**У Магілёве штомесяц амаль 50.000 чалавек не плацяць за электрычнасць.**

Нягледзячы на тое, што энерганагляд апошнім часам пачаў адключаць самых злосных неплацельшчыкаў, колькасць даўжнікоў расце. Міліцыя пакуль нічога не можа зрабіць.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Піраміда з замежнай прапіскай

**Амаль 400 тысячаў амерыканскіх долараў і больш за 2 мільёны нямецкіх марак пералічылі даверлівыя беларускія грамадзяне ў швейцарскі банк на рахунак фірмы «Астран».**

Як паведаміла Магілёўскае абласное ўпраўленне дзяржкантролю, у нашай краіне дзейнічаюць шматлікія таварыствы і клубы з нейтральнымі назвамі накшталт «Алмаз», «Арыён», «Тытан». Яны заклікаюць людзей «выгадна ўкладваць валюту». Звычайна гаворка ідзе пра 500 - 1.000 долараў, гэтыя грошы чалавек павінен пералічыць у Швейцарыю, а калісьці пазней ён нібыта атрымае ўдвая больш. Прычым для гэтага ўдзельнік праграмы павінен прыцягнуць у «клуб-таварыства» новых членаў.

Па звестках карэспандэнта НАВІНАЎ, у Магілёўскай вобласці прадстаўнікі «Астрана» арандавалі цэлыя дамы культуры, і нейкія замежныя госці хваліліся, якія яны заможныя і надзейныя. Мяркуючы па сумах, што аселі на іх швейцарскіх рахунках, яны сапраўды заможныя. Дый нашыя людзі, відаць, нябедныя, калі не баяцца ўкладваць грошы ў чарговыя піраміды.

**Іван ЗАСАДА**



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1183 Нумар падпісаны ў друк 04.05.98 (15:00) Наклад — 19.460